# КАНТАКТ

ШЛЯХІ БЕЛАРУСКАЙ ДУМКІ 1989 № I

## Ад рэдакцыі

За апошнія два-тры гады адбыліся ў Беларусі гістарычнай важнасці падзеі. Узніклі дзесяткі патрыятычных аб'яднанняў моладзі, пачалося выяўленне злачынстваў сталіншчыны, створана рэспубліканскае таварыства "Мартыралог Беларусі" і арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту, адбыліся масавыя мітынгі- рэквіемы, з якіх апошні 30 кастрычніка 1988 г.у Менску, нягледзячы на забарону, прыцягнуў тысячы людзей. Паўстала новая грамадская сітуацыя, якую ўжо нельга прыкрываць фігавым лістком "маральна-палітычнага маналіту" і "білінгвізму". Паслядоўна выявіліся дзве супярэчныя плыні, прадстаўнікі якіх заявілі на старонках газет аб немагчымасці канструктыўнага дыялога. Пачалася канфрантацыя...

На адным баку - усё яшчэ магутная рэакцыйная бюракратыя,ідэйныя пераемнікі вялікадзяржаўных чорнасоценцаў, якія надалей трактуюць Беларусь як расейскую калонію і нарыхтоўчы фальварак, а не як суверэнную савецкую рэспубліку з належнымі палітычнымі, эканамічнымі і культурна-моўнымі атрыбутамі. Гэта яны нясуць маральную адказнасць за эканамічны крызіс, экалагічную катастрофу, генацыд народу і яго эліты, за разбурэнне помнікаў нашай мінуўшчыны, кастрацыю нацыянальнай свядомасці, мовы і культуры.

На другім баку - патрыятычны адраджэнскі рух, пад сцягамі якога гуртуюцца ўсё большыя сілы нацыі. Яны разумеюць, што далей адступаць проста няма куды, што другой перабудовы не будзе і што толькі цяпер можна і трэба зрабіць усё магчымае для ратавання Беларусі ад нацыянальнай смерці. Гэтая гістарычная задача ўсведамляецца не толькі патрыятычнымі сіламі рэспублікі, але і ўсяго беларускага этнічнага абшару - Беласточчыны, Віленачыны, Смаленшчыны і Дзвіначчыны, а таксама суродзічамі на чужыне.

З гэтых асяроддзяў выйшла ініцыятыва стварэння незалежнага часопіса КАНТАКТ, як форума беларускай палітычнай думкі. Асноўная мэта КАНТАКТУ - садзейнічаць умацаванню суверэнітэту Беларусі і пашырэнню адраджэнскага руху. Згодна з гэтай мэтай, на старонках часопіса будуць абмяркоўвацца істотныя пытанні сучаснай сітуацыі Беларусі і беларускага жыцця па-за яе межамі, спрэчныя пытанні яе гісторыі, погляды і дзейнасць нашых выдатных папярэднікаў, суадносіны з суседнімі нацыямі і г.д.

Выпускаючы першы нумар КАНТАКТУ, рэдакцыя заяўляе, што ён не з'яўляецца органам якой-небудзь палітычнай партыі ці групоўкі.Наш часопіс будзе адкрыты для разнастайных абгрунтаваных поглядаў і, у такім плане, павінен адыграць ролю своеасаблівай школы палітычнага мыслення, адпаведнага грамадскаму запатрабаванню сучаснасці.

Жыве Беларусь!

дэмакратызацыі. Прыкладна ў 22 гадзіны I5 хвілін Зянон Пазьняк ставіць на галасаваньне прапанову стварыць пры Таварыстве "Мартыралог Беларусі" Арганізацыйны Камітэт па стварэньню Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне", якая была сустрэта авацыяй залы.

x x x

На сходзе прысутнічала шмат прадстаўнікоў друку, але па ўказаньню дырэктыўных органаў, ні адна газэта БССР не паведаміла пра ўтварэньне Арганізацыйнага Камітэту Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне". Замест гэтага кіраўніцтва рэспублікі разгарнула ў друку, на сходах і нарадах кампанію шальмаваньня і кампраметацыі самой ідэі народнага фронту. Паводле сваіх заклікаў: "Не дапусьцім!", "Нам гэта ня трэба!", "Аргкамітэт БНФ -самазванцы!" і падобных, - гэтая кампанія нічым не адрозьнівалася ад вядомых кампаній 30-х - пачатку 50-х гадоў супраць т.зв."ворагаў народа", супраць ленінскіх кадраў камуністычнай партыі, рабочых, сялянства і інтэлігенцыі, супраць лепшых кадраў у арміі, супраць генэтыкі і кібернэтыкі і г.д., сьледам за якімі пачыналіся масавыя рэпрэсіі. Завадатарамі сёньняшняй кампаніі выступаюць часта тыя самыя асобы, якія практыкаваліся ў шальмаваньні яшчэ ў 50-я гады.

Між тым, дастаткова кароткай аб'ктыўнай інфармацыі пра сход у менскім Доме кіно, каб убачыць сапраўдных аўтараў пералічаных вышэй заклікаў, якія цьвёрда трымаюць у сваіх руках манаполію на ўсе сродкі масавай інфармацыі ў рэспубліцы.

Напрыклад, хто тыя самазванцы, што ўтварылі Арганізацыйны Камітэт БНФ і якіх не пажадала назваць газэта "Вячэрні Мінск"? Можа, гэта народны пісьменьнік Беларусі, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Васіль Быкаў, якога справядліва называюць сумленьнем народа? Ці можа, археолаг Зянон Пазьняк, які шмат гадоў змагаецца з сучаснымі герастратамі за нацыянальную культурную спадчыну, помнікі гісторыі і архітэктуры, а нядаўна раскрыў усім нам вочы на трагедыю ў Курапатах? А можа, паэт Ніл Гілевіч, які з рэспубліканскіх і саюзных трыбунаў адкрыта гаворыць пра крытычны стан мовы, гісторыі, культуры, усяго нацыянальнага, усяго духоўнага на Беларусі? Можа гэта галоўны рэжысёр Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР, дэлегат XIX парткапферэнцыі Валеры Масьлюк? Ці можа, Пятро Садоўскі, кандыдат мовазнаўства, старшыня моўнай камісіі Беларускага фонду культуры, якога як вядучага тэлеперадачы "Роднае Слова" ведае ўся Беларусь?..

А можа, самазванцы ўсё ж тыя, хто, доўгі час, кіруючы жыццём рэспублікі, сам застаецца ў цяню і зусім не зьяўляецца сумленнем народа, хто давёў нашу эканоміку, побыт, культуру да перадкрызіснага становішча, а цяпер за подпісам рабочага ў "Вячэрнім Мінску" сьцьвярджае, што ніякія зьмены нам не патрэбны? Можа, той самазванец, хто ніколі не спытаўшы думкі народнай, аддае загады на вынішчэньне нашай прыроды, на Салігорск, Новаполацк, Гародню, Магілёў - шкодныя для ўсяго жывога Чарнобылі нашай зямлі; хто сёньня цішком ад народа закладае пад Віцебскам новую АЭС? Хто разбурае нашы старажытныя гарады, хто зводзіць народ ад рэальнага ўдзелу ў палітыцы, ад мовы ягонай, гісторыі і духоўнасьці у мяшчанскую сьпячку, п'янства, наркаманію ды іншыя вычварэньні ад няверы ў будучыню?



Скуль гэтыя людзі? Можа, мы ведаем хто яны, адкуль узяліся і чым заслужылі свае кіраўнічыя пасады? Можа, іх абіраў народ? Можа, іх абірала партыя? А самае галоўнае - ці ж адпавядаюць гэтыя "наменклатурныя" работнікі, што дарасьлі па кабінетах да вышыняў службовай лесьвіцы, тым пасадам, якія займаюць? Напэўна,не. Бо каб адпавядалі, дык не імкнуліся застацца ў цяню і ўсё рабіць цішком. Адразу відаць, сёньняшняе кіраўніцтва рэспублікі -не гарбачоўскага, не дэмакратычнага кшталту, які падабаецца народу. Вось яны і манапалізавалі ў сваіх руках усю ўладу, будучыню народа і сродкі масавай інфармацыі. Вось чаму ім не патрэбны БНФ за перабудову, як і не патрэбная і самая перабудова. І яны, у большасьці сваёй перакананыя сталіністы, зьвязаныя кругавой парукай, дакуль змогуць, не дапусьцяць на Беларусь паветра перамен.

Варта было Алесю Адамовічу ў часопісе "Огонек" назваць арганізатарам антыперабудовачнай Вандэі-контррэвалюцыі на Беларусі загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ С. Паўлава, як адразу на бліжэйшым пленуме ЦК КПБ і ў сваім друкаваным органе "Вячэрнім Мінску" Адамовіча закляйміў першы сакратар Менскага ГК КПБ Галко, сам Паўлаў разаслаў па рэспубліканскіх і абласных газэтах артыкул-шальмаваньне Адамовіча і сяброў "Талакі" за подпісам чатырох ветэранаў сталінізму, вядомых сваім удзелам у лысенкаўшчыне ды ўсхваленьні Л. Берыі*, а першы сакратар ЦК КПБ Я.Сакалоў сабраў нараду партыйных кіраўнікоў рэспублікі, дзе інструктаваў, як расправіцца з Беларускім Народным Фронтам, нефармальнымі патрыятычнымі суполкамі і ўсім, што яшчэ дыхае на нашай зямлі. Нарэшце, газэта "Вячэрні Мінск" апублікавала нататку "Нам з вамі не па дарозе" - своеасаблівую дэкларацыю антыперабудовачных сіл на Беларусі, працяг сумнавядомага артыкула Н. Андрэевай.Усімі гэтымі дзеяньнямі кіраўніцтва рэспублікі паказала, што разам з М. С. Гарбачовым яно не пойдзе, што яно ўжо гатовае "закручваць гайкі назад".

Зразумела, што ў сёньняшніх умовах як сьлед раскруціць рэпрэсійную машыну яны не пасьпеюць. Але каб увогуле не дапусьціць нявінных ахвяраў 80-х, патрэбны рух усяго нашага народа, Беларускі Народны Фронт.

Кіраўнікі рэспублікі абвінавачваюць Арганізацыйны Камітэт БНФ у антыдэмакратызме, антысаветызме, нацыяналізме і іншых сьмяротных грахах зусім не таму, што клапоцяцца пра дэмакратыю, Савецкую ўладу і нацыянальную роўнасьць. Бо менавіта яны не даюць слова ўсім нязгодным. Менавіта Я. Сакалоў на нарадзе ў ЦК КПБ паведамляе як пра небясьпеку: "Неформалы проникли в органы власти!", а газэта "Звязда" замарозіла цэлую кіпу абураных водгукаў сьпецыялістаў і грамадскасьці на свой артыкул пра старажытную беларускую сімволіку. Менавіта яны узурпіравалі ўсю ўладу ў рэспубліцы адабраўшы яе ў Саветаў. Менавіта яны стварылі невыносныя ўмовы для культурна-нацыянальнага існаваньня на Беларусі як саміх беларусаў, так і палякаў, літоўцаў, татараў і іншых.

Сёньня кіраўніцтва рэспублікі аганізуе. Ягоныя дзеяньні ў палітычнай, культурнай, экалагічнай і іншых сферах ніяк не назавеш прадуманымі, узважанымі дзеяньнямі гаспадароў краю. Пры нашым усеагульным згодным маўчаньні, пры рабскай пакорлівасьці народа, узоры якой ужо сёньня паказваюць некаторыя супрацоўнікі рэспубліканскіх газэт, мы ўсе пачнем аганізаваць таксама. Новая

## Канфрантацыя і яе прычыны

30 X I988 г. на загад гарадскіх улад быў разагнаны ў Менску мітынг-рэквіем памяці продкаў "Дзяды". Гэтая ганебная падзея выклікала ў савецкай і замежнай прэсе шматлікія каментарыі, у якіх м. інш. выказвалася здзіўленне: навошта менскім уладам спатрэбілася забарона такога мерапрыемства, якое звычайна не выклікае засцярог ні ў іншых рэспубліках СССР, ні ў замежных краінах? Да рэчы, чаму нават у гэтым самым Менску , у I987 г. святкаванне памяці продкаў было магчымым, а ў I988 г. немагчымым? Або ўрэшце, чаму гэтае мерапрыемства ў Менску разганялася, а адначасова ў Гародні адбывалася свабодна?

У выніку пратэстаў грамадскасці, творчых саюзаў і аргкамітэту БНФ /гл. дакумент № I/, для расследавання інцыдэнту была паклікана спецыяльная камісія Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. У палове лістапада камісія апублікавала "вывады", у якіх па-сутнасці яна абмежавалася да сцвярджэння, што нельга было парушаць правапарадак устноўлены гарадскімі ўладамі, зусім незалежна ад таго, ці быў ён абгрунтаваны, ці не.

Больш чым сенсацыйны і эмацыянальны аспекты гэтай справы,нас цікавіць палітычная матывацыя разгону мітынгу. Аб гэтым неаднаразова вялася гутарка на сходах і пісалася ў газетах, так што, быццам, адкрываць ужо няма чаго. Усё ж лічым мэтазгодным прапанаваць увазе чытачоў два неапублікаваныя партыйныя дакументы, якія лепш чым шматслоўныя "вывады" камісіі і прэсавыя каментарыі гавераць, каму і навошта спатрэбіўся <u>такі</u> правапарадак. У прыватнасці абодва дакументы даюць дастатковую падставу для сцвярджэння,што кансерватыўныя сілы КПБ ужо раней планавалі расправу з усімі праявамі беларускага адраджэнскага руху, а мітынг быў імі выкарыстаны як зручная нагода.

Дакумент № 2 /"Некоторые актуальные вопросы..."/ апрацаваны аддзелам агітацыі і прапаганды менскага гаркама КПБ найпазней у верасні, а № 3 /"О некоторых особенностях..."/ Цэнтральным Камітэтам КПБ у лістападзе I988 г. Па зразумелых тэхнічных прычынах рэдакцыя вымушана скараціць паасобныя фрагменты гэтых дакументаў, у прыватнасці № 3, якога агульны аб'ём - I8 машынапісных старонак Між інш. скарочаны фрагменты, якія былі выкарыстаны ў друку ў канцы кастрычніка /артыкулы: "Эвалюцыя палітычнага невуцтва", "Пена на хвалі перабудовы", "Наша думка для іх абыякавая", "На словах і на справе"/. Рэдакцыя КАНТАКТУ чакае на далейшыя дакументы, выказванні і каментарыі аб антыбеларускіх дзеяннях рэакцыі.

### Дакумент I: Заява Арганізацыйнага Камітэту Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэнне"

30 кастрычніка I988 года ў горадзе Мінску атрады міліцыі і ўнутраных войскаў, спецпадраздзяленні, узброеныя дубінкамі, слезацечным газам і вадамётнай тэхнікай, разагналі шматтысячны мітынг-рэквіем памяці продкаў "Дзяды", папярэдне незаконна, без юрыдычнага абгрунтавання забаронены. Ужывалася фізічная сіла і слезацечныя газы.



Мы ацэньваем падзеі 30 кастрычніка як непрыкрыты рэцыдыў сталіншчыны, як наступ антыперабудоўчых сіл на дэмакратыю, і выказваем рашучы пратэст супраць беззаконня і гвалту над правамі чалавека. Улады, аддаўшы загад на разгон мітынгу, паказалі, што яны дыялогу з народам весці не жадаюць.

У рэспубліцы разгорнута кампанія паклёпу і хлусні супраць Таварыства памяці ахвяраў сталінізму "Мартыралог Беларусі", Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту, патрыятычных маладзёжных аб'яднанняў. Ідзе беспрэцэдэнтнае шальмаванне і дыскрэдытацыя творчай і навуковай інтэлігенцыі, нацкоўванне на яе рабочых. Аргкамітэту Народнага Фронту праваакцыйна прыпісваюцца абсурдныя палітычныя намеры, людзей застрашваюць прыбалтыйскімі народнымі рухамі за перабудову, мэтанакіравана скажаючы іх дэмакратычную сутнасць.

Мы рашуча заяўляем, што курс на распальванне міжнацыянальнай і сацыяльнай варожасці, які абрала сёння ідэалагічная служба рэспублікі - гэта крымінальнае і палітычнае злачынства.

Выйсце з сённяшняга крызісу мы бачым у адкрытым дыялогу грамадскасці з тымі кіраўнікамі, якія ўсвядомяць, нарэшце, што перабудова не адбудзецца, пакуль да палітычнага жыцця рэспублікі не далучацца мільёны яе жыхароў.

Кіраўніцтва, якое ужыло сілу супраць уласнага народу, разгарнула паклёпніцкую кампанію супраць дэмакратычнай ініцыятывы, супраць інтэлігенцыі і моладзі - скампраметавала сябе і не заслугоўвае палітычнага даверу.

Аргкамітэт Беларускага Народнага
Фронту за перабудову "Адраджэнне"

### Дакумент II: Некоторые актуальные вопросы идеологической работы в современных условиях

Идеологическая ситуация в современных условиях характеризуется следующими основными долговременными моментами:

I. Мощным воздействием подготовки, а затем проведения резолюций XIX Всесоюзной партийной конференции, постановлений июльского /I988 г./ Пленума ЦК КПСС. Остро поставленные в подготовительный период, а затем и на самой конференции вопросы революционных изменений в политической системе в обозримой перспективе сохраняют свою приоритетность, оказывают определяющие влияния /как позитивное, так и негативное/ на идеологическую обстановку как в стране, так и в республике.

2. Сложным и противоречивым положением, сложившимся в творческих союзах, особенно в союзе кинематографистов и союзе писателей и рядах научной интеллигенции. Можно констатировать, что как ни союзном, так и на республиканском уровне сложились разнополюсные по своим взглядам группы творческой интеллигенции, с разных позиций оценивающие и комментирующие в средствах массовой информации происходящие в стране перемены.

3. Нарастающей волной социальной демагогии, которая иногда приобретает антисоциалистический, а временами и антигосударственный характер. В качестве предлогов для разжигания истерии используется тематика политических репресий, экологии, национальная проблематика итд.

4. Стремительным ростом и расширением как по вертикали, так и по горизонтали сети так называемых "неформальных обьединений". Численность их за прошедший со времени первой информационной встречи-диалога "Общественная инициатива и перестройка /20-23.8.87/ выросла по меньшей мере в 5-7 раз. Предпринимаются попытки создания оппозиционных, альтернативных политических партий типа"Демократический союз" /Москва-Ленинград/. Сеть так называемых неформалов" многоступенчата, сложна, хорошо адаптирована к быстро изменяющимся условиям. При анализе белорусских "неформалов" очевиден марионеточный характер ряда нашумевших обьединений.Уповать на малочисленность этих групп недопустимо. Пример: КОС-КОР в 1977 -1979 гг. в Польше не превышал 30 человек.

5. Негативным воздействием утраты партийным руководством контроля за положением дел в Армении, Азербайджане, Эстонии и ряде других регионов страны. Методы , применяемые политической оппозицией - создание так называемого "Народного фронта в защиту перестройки", забастовки, выдвижение ультиматумов и т.д. служат "примером" для других регионов, в том числе и для Белоруссии. В этом плане показательна история с июльскими митингами Минске,начатая 3 июня публикацией З.Позняка и Е.Шмыгалева в "ЛиМе".

6. Продолжающимся экономическим кризисом и отсутствием близкой перспективы выхода из него в ближайшие сроки. Критическая экономическая ситуация опасна прежде всего в том плане, что ее продолжение может привести к постоянной утрате иммунитета рабочего класса и антигосударственной деятельности /опыт Польши/. В то же время нельзя исключить выхода на рабочий класс и заготовки впрок лидеров из рабочих либо из маргинальных слоев /типа В.Ивашкевича/ - пример Л.Валенсы и З. Буяка в Польше.

Конечно, в относительно благополучной в экономическом плане республике - БССР, трудно прогнозировать широкое распространение антисоциалистических идей в массах трудящихся, тем более, что и второй рычаг антисоциалистических сил - национализм, у нас блокирован довольно надежно. Однако, яркий пример Эстонии, республики еще более благополучной в экономическом отношении, должен быть тщательно проанализирован.

Дакумент III: О некоторых особенностях нынешней общественно-политической обстановки в республике.Ориентировка для служебного пользования

В последнее время в республике отмечается активизация групп экстремистского толка. Среди них особо выделяются такие самодеятельные формирования как "Талака", "Тутэйшыя", "Современник"/г. Минск/, "Паходня" /г. Гродно/, "Узгор'е" /г. Витебск/,"Маладзік" /г. Новополоцк/ и другие. Они явочным порядком собирают различные сборища, создают всевозможные "комитеты", провозглашают"декларации", "программы", пытаясь вовлечь в эту сомнительную возню возможно большее количество людей, особенно молодежи. Такого рода действия часто инспирируются и подогреваются событиями в прибалтийских республиках. В населенных пунктах Белоруссии, расположеных вдоль границы с Литвой и Латвией, отмечается участившийся наплыв эмиссаров, подстрекающих местное население направлять всякого рода протесты, выступать за создание "народного фронта" и т п.



При ближайшем рассмотрении этих "программ" складывается впечатление, что они отражают социальные интересы тех слоев,которые в годы застоя путем "теневой экономики", злоупотреблений,коррупции нажили крупные денежные средства, а ныне стремятся легализовать свои капиталы, направлять их в русло частного предпринимательства.

Методы работы экстремистских групп отличаются изощренностью. На вооружение берутся шантаж, угрозы, подлоги, обман, фальсификация, навешивание оскорбительных ярлыков на людей, оказавшихся на пути амбиций и вождений экстремистов.

Глубоко противоречит правовым нормам и развивающемуся в нашей стране демократическому процессу уже сама процедура создания организационной структуры так называемого "народного фронта за перестройку и возрождение". Историко-мемориальная комисия,от имени которой пошла кампания за создание "народного фронта", образовала так называемый "Комитет 58" /по номеру статьи Уголовного кодекса РСФСР, по которой, в 30-40-х годах осуществлялись репресии/. Правление фонда культуры отвергло это предложение. Тем не менее комисия явочным порядком создала этот комитет, а газета "Літаратура і мастацтва" опубликовала его программу.

Как показали последующие события, вся возня вокруг "Комитета 58" была откровенным прикрытием экстремистских групп З.Позняка/научный сотрудник Института истории АН БССР/, М. Дубенецкого /пенсионер/, В. Вечерко /ассистент кафедры белорусского языка пединститута им. Горького/ для достижения далеко идущих целей.

На собрании /19 кастрычніка ў Доме кіно - рэд./ была создана атмосфера, когда любой намек на здравый смысл подвергался травле, улюлюканью. Шторм эйфории настолько захлестывал собравшихся что они утрачивали способность трезво оценивать свои слова, действия и их последствия. Специально подобранные холеные парни из "Талаки" пытались даже применять силу, чтобы закрывать рты и уводить с трибуны оппонентов, пытавшихся выразить несогласие с затеянной провокацией.

Одна из целевых установок экстремистских групп - протащить призывы "народного фронта" в широкие слои населения.С этой целью было задумано провести 30 октября с. г. под прикрытием религиозного праздника "поминовения умерших "Дзяды" массовый митинг, с тем чтобы опять же под шум о Куропатах рекламировать лозунги о создании "белорусского народного фронта". С целью обеспечения общественного правопорядка органы Советской власти г. Минска были вынуждены принять соответствующие меры пересечения действий,выходящих за рамки закона.

Довольно четко определилась тактика, методы действий экстремистских групп. Для реализации своих далеко идущих политических

целей и амбиций они спекулируют на памяти о жертвах репрессий, вводят в заблуждение общественное мнение, маскируют свои идеи и цели под установки и требования XIX Всесоюзной партийной конференции, разглагольствуют о новом политическом мышлении, размывая его субъективистскими, далекими от науки суждениями. Один из излюбленных приемов - объявлять внешне приемлемую повестку дня очередного собрания, диспута, а проводить сомнительные резолюции, призывы.

Следует иметь представление о ближайших намерениях экстремистских групп. Они высказываются за создание в трудовых коллективах опорных ячеек "оргкомитета народного фронта" и предпринимают в этом плане настойчивые попытки проникнуть в заводские и сельские трудовые коллективы. Ставится цель выбить из рук партийных комитетов средства массовой информации, всячески внедрять в редакции "своих людей" - верных осведомителей и информаторов. По всем каналам самиздата ведется беспардонная дискредитация партийных и советских органов, травля их руководителей. При этом сплошь и рядом допускается ложь, дезинформация, подтасовка фактов и другие недостойные приемы из арсенала худших времен.

Складывающаяся общественно-политическая обстановка в республике требует повсеместного усиления идеологической, политико-воспитательной работы, ее конкретизации.

С этой целью необходимо во всех городах и районах, в коллективах трудящихся создать специальные идеологические комисии, на которые возлагается повседневный контроль за состоянием общественно-политической обстановки, выработки и осуществление оперативных мер по ее оздоровлению. Обязанностью комиссий является выявление и постновка на учет всех экстремистских элементов и групп, постоянная работа с ними. Особое внимание следует уделять организации индивидуальной воспитательно-профилактической работе с лидерами экстремистских групп. Практиковать заслушивание их отчетов в трудовых коллективах о личном вкладе в перестройку, решительно осуждая их незрелые выходки и позиции. Персональная ответственность за проведение этой работы возлагается на руководителей и секретарей парторганизаций, где работают или учатся такие люди.

Во всех партийных организациях целесообразно принять безотлагательные и эффективные меры по дальнейшему усилению партийно-политического влияния на трудящихся и молодежь с учетом характера момента. В партийных комитетах и бюро проводить индивидуальные встречи с родителями членов самодеятельных клубов и групп молодежи, в которых раскрывать суть и опасность националистических устремлений их детей. Повысить требовательность к родителям-коммунистам за нравственное поведение и поступки их детей, за идейно-политическое и моральное воздействие на них.

В вузах республики, научно-исследовательских институтах А Н БССР крайне важно рассмотреть вопросы отношения к "народному фронту", а также меры воспитательно-профилактического характера, направленые на предупреждение проникновения в студенческую, научную и преподавательскую среды экстремистских элементов. Повысить ответственность преподавателей, коммунистов за состояние воспитательной работы в студенческих коллективах.



Обкомам, горкомам и райкомам партии, Белсовпрофу и его подразделениям на местах следует глубже анализовать морально--политическую обстановку в коллективах, вместе с партийными организациями с учетом меняющихся условий разрабатывать и осуществлять эффективные меры влияния на людей. При этом обращать особое внимание на удовлетворение повседневных нужд граждан, внимательно относится к их обращениям в партийные, советские, профсоюзные и хозяйственные органы по личным вопросам, всячески пресекать попытку бюрократизма и волокиты в работе с людьми.

Редакциям республиканских и местных газет, журналов, телевидения и радио поручено готовить и публиковать материалы, раскрывающие обстановку, складывающуюся в районах Белоруссии, которые граничат с прибалтийскими республиками, выводить на чистую воду разного рода экстремистские выходки и явления, широко используя при этом общественное мнение.

В течение ноября-декабря с.г. пересмотреть и внести изменения в составы редакционных коллегий газет и журналов и обеспечить персональную ответственность их редакторов за уровень публикаций. Редакционные коллективы укрепить профессионально подготовлеными, политически зрелыми кадрами. С журналистами, допускающими идейно неправильные взгляды и позиции или сотрудничающими с экстремистскими группировками, проводить соответствующую индивидуальную работу.

Руководителям всех коллективов, где имеется множительная техника, ввести жесткий контроль за ее использованием, решительно пресекая все попытки к "самиздату".

На базе университетов марксизма-ленинизма, обкомов КПБ организовать учебу партийно-хозяйственного и идеологического актива республики по проблемам развития и совершенствования межнациональных отношений, национального языка, истории и культуры, вести работу по вооружению их глубокими знаниями по этим вопросам, умению противодействия демагогам и экстремистам.

Вся идеологическая и организационная работа в трудовых коллективах в нынешней ситуации должна быть направлена, с одной стороны, на дальнейшее повышение трудовой и производственной дисциплины, рост эффективности производства и, с другой стороны, на выработку у наших людей негативного отношения к так называемому оргкомитету за создание "народного фронта", качеств убежденных борцов за истинную перестройку, за дальнейшее развитие и совершенствование социализма.

Вер у будучыню Беларусі, у адраджэнне твайго народу! Не дай нікому вырваць з цябе гэтую веру, нягледзячы на ўсё што было і будзе. Жыві так, як быццам уся будучыня і лёс Беларусі залежаў толькі і выключна ад цябе, як быццам толькі ты адказваў за гэта.

## Сказ пра Саўку Паўлава і групу хуткага адпору

Ад рэдакцыі: Нягледзячы на перабудову і галоснасць, жыве ў Беларусі традыцыя ананімнай літаратуры. Пасля славутай паэмы "Лысая гара" /некалькі выданняў у США, ФРГ, ПНР і, урэшце, у 1988 г. у Менску/, з'явілася новая паэма - "Сказ пра Саўку Паўлава...", якую прапануем увазе чытачоў. Гэты сатырычны водгук на апошнія падзеі ў Менску сведчыць аб тым, што дзеянні рэакцыі выклікаюць не толькі непакой і пратэсты, але і смех. А смех, як вядома, зброя больш надзейная чым паліцэйскія палкі...

Час мяняецца, прыносіць
Шмат навін нязвыклых ён:
Дэмакратыя, галоснасць
І "свабодны мікрафон".
Нефармалы ўсюды ціснуць,
Мітынгуюць там і тут,
Дабіваюць сталіністаў,
Над начальствам ладзяць суд.

А ў нашым родным краі
Расстаўляе зноў сіло
Звычка подлая, старая:
Толькі б ціха ўсё было!
Хоць як бышцам бы і ў нас
Перамены робіць час.

У прэм'еры і ў міністры
Касяком палезлі ў ход
Інжынеры, трактарысты -
Мінскай выпечкі народ.
Хто калісь ім лязню ладзіў
І напіткі падбіраў,
Пры пасадзе і акладзе -
Кіраўнік дзяржаўных спраў.

У расчыненыя дзверы
Да сваіх таварышоў
І Пячэннікаў Валера
Ідэолагам прыйшоў.
Пастаноў высокіх жыжу
Ён даўно ужо каўтаў
І таму ніякіх кніжак
Год пятнаццаць не чытаў.

Ды якраз ад перапалкі
І ад крытыкі і кпін
Адпраўляўся на рыбалку
Хітраваы стары Кузьмін.
І пакінуў ён Валеру
Сметнік значнага памеру.

Нібы мухі, сметнік гэты
Абсядаў народ такі:
Кампазітары, паэты,
Рэжысёры, мастакі.

Кожны штосьці там шурупіць,
Ды ямчэ па ўладзе лупіць.
З гэтай тлумнаю аравай
Не спраўляецца Бюро.
Хто з іх левы?
Хто з іх правы?
Дзе ў іх штык?
А дзе пяро?..

Ясна, ім ідэйны порах
Падмачнуў заморскі вораг
І смаркачі-інтэлігенты -
Белай гвардыі агенты...
Хоць настрой Валеры падаў,
Поўз уніз на тармазах,
Выручаў Савелій Паўлаў -
Прапаганды вечны заг.
Дзелавіты і жывучы,
Ён трымаў ад прэсы ніць,
Добра ведаў, як прыжучыць,

Прышчаміць, забараніць.
Ён надзейны, як безмен,
Час ідзе, а ён без змен...

Не хаваючы даверу,
Даў парадку ён Валеру:
-Хочаш мець апёкаў меней -
Жар грані чужою жменяй.
Трэба моцная рука.
Групу хуткага адпору
Згарбузуем пры ЦК.
Каб не мы мазгі ўпраўлялі,

І рабілі паварот -
Навукоўцы, генералы -
Адукованы народ.
Ледзь заўважым дзе заразу,
Падключаем іх адразу.
А пятнецца Адамовіч,
Мы ў адказ яму - адмовіць,
Хай уведае Алесь:
Як не просім, дык не лезь.
На Вячорку і Вітушку
Хутка знойдзем мы заглушку.
Я ў "Вячорцы" растаўку...
Прынародна "Талаку".

Хоць Пячэннікаў нямёка
Чуў сябе, ды быў гатоў
Да бліжэйшага знаёмства
Запрасіць "барацьбітоў".
Вось яны падпёрлі сценку:
Філімонаў, Дамарад,
Ульяновіч, Ігнаценка -
Дружны, вопытны атрад.
Задаволена і тупа
Інструктаж чакала група.

Зваў Пячэннікаў:
"Не густа.
Эскадрон былых ваяк.
Так з духоўнаю распустай
Мы не справімся ніяк.
Як гаворыцца, не гейшы,
А старое гуано..."
- Ну, а трошкі... маладзейшых
Не чутно і не відно?
Зразумеў прамашку Саўка:
- Прадугледжана дабаўка.
Мы Сташкевіча падключым,
Каб не надта быў калючым.
Хай падкіне нам фактуру

І засвеціць "агентуру",
Тых, што сноўдаюць па скверу,
Асмялелыя не ў меру.
Ёсць, хто "бомбачкі" пуляе,-
Боўш, Бягун і Пепеляеў,
Заклікаюць шмат гадоў:
"Бі нацдэмаў і жыдоў!"
Калі трэба, ёсць давескі:
А.Бажко і А.Залескі...
Дасць Маскве і Рызе фору
Група хуткага адпору...

Стала моташна Валеру
І падумаў ён: "Аднак
На якую мне халеру
Гэты чортаў кавардак?

Папрасіцца б мне ў адстаўку.
Пенсіённыя дзяды
На чале з жалезным Саўкам
Завядуць мяне куды?"

Ды назад вяртацца позна:
Абвяшчае Саўка грозна:
- Група хуткага адпора
Наша гнуткая апора.
Адбіраем факты ў фонды -
Адкрываем вам спецфонды.
Слава Быкава ў зеніце -
Звон ідзе з усіх бакоў.
Дык яго вы гламазніце
У падтэксце, між радкоў.
А Тарасава і Сушу
Патрасіце нібы грушу.
Будзе ўласнай контры мала,
Дазваляем біць Шагала...

Група ўзводзіць вочы ў неба,
Кожны чэша далоню:
- Калі трэба - значыць трэба!
Нам яно не ў першыню.
І дарэчы, без прынукі,
Хоць ён нам ні сват, ні зяць,
Мы гатовы на парукі
Сёння ж Жданава узяць!..

Адаслаў дзядоў Валера,
Пачасаў пусты прабор:
- А ў іх ёсць якая мера?
Ці не будзе перабор?
Бо прасіў жа Сакалоў
Браць у бойку мене калоў...

Супакоіў Саўка: - Што ты,
Не трывожся ні аб чым.
Гэта ўсё - мае турботы,
Я ўсё ўзважыў і ўлічыў.
Шмат наперад мне вядома.
Я за гэтулькі гадоў
Перажыў у гэтым доме,
Можа, сто перабудоў.
Косткі мне перабіралі,
А цяпер, скажыце, дзе
Левакі і лібералы?
Я ж сяджу, як і сядзеў.
Я б і сам якога гада
Кулаком гатоў прыбіць,
Толькі нельга мне - пасада,
А нутро даўно свярбіць.
Пакачаў уволю ў брудзе
Я гербы іх і сцягі б,
Ну няўжо Яфрэм асудзіць
Пралетарскі перагіб?..

Аж спалохаўся Валера,
Як клакоча Саўка злом:
"Гэта ж мы такога звера
Зберагаем пад крылом".
Прыхаваў свой позірк колкі
I на выхад выдаў "пас":
– I не страшна аніколькі,
Калі грымнуць у адказ?
Саўка хмыкнуў: "Божа мілы,
Ён хвалюецца ў журбе".
– За мяне такія сілы,
Што не сніліся табе.
Як дастану з сейфа папкі,
Дык усе падымуць лапкі.
Што казаў, дзе памыліўся,
З кім якую чарку піў,
Што прадаў і што купіў,–
Нібы пчолы мёд у соты,
Мне нясуць усё сексоты.
Будзе трэба, без затрымкі
Гэта я аддам у друк
I ў Маскве – не без падтрымкі:
Ёсць стары сябрук – Сяўрук...
Што ж, – сказаў Валера – сходу
Я даю на групу згоду...

I пайшла пісаць губерня –
У "Вячорцы" і ў "Звяздзе".
Хоць усіх ад глупства верне,
Група дружна рэй вядзе.
Нібы застаўкі сарвала,
Не змаўкаюць крумкачы –
Кандыдаты, генералы,
Адстаўныя стукачы.
Заключэнні і прадмовы
Да гісторыі і мовы,
Рэзалюцыі, ацэнкі –
Хоць адразу стаў да сценкі.
Падыход амаль што царскі,
Як вучыў Абецэдарскі.
Не псаваў зусім абедні,
Пёр у першыя рады
"Палітычны субяседнік",
Што вішчэў на ўсе лады.
Пачытаць яго, дык здуру
Не захочаш нават жыць:
Падрыўною агентурай
Навакол усё кішыць.
А народ дурны і сонны
Не дапетрыць – справы швах:
Тут нацдэмы, там масоны,
Родны лад трашчыць па швах.
Публікацыямі Мальдзіс
Падарваў марксісцкі базіс,
А няголены Садоўскі
Адмаўляе ўплыў маскоўскі...

Ды з падтрымкай нешта глуха,
Хоць бы дзе радочкі два.
I нарэшце заварухай
Абурылася Масква.
Атрымалася няўпраўка,
Нечакана бліснуў гнеў
I тады з інфарктам Саўка
У бальніцу загрымеў.
А за ім нібыта цені,
Зубы сцяўшы на бягу,
Пліганулі на лячэнне
Пепеляеў і Бягун...
Скіс разгублена Валера:
"Мне ўсё гэта – цёмны лес,
Лепш бы я дзяліў кватэры,
А не ў гэты нетры лез".
I каб даць якую раду,
Весці справу прамічком,
Да сябе сабраў нараду,
Лявнуў грозна кулачком:
– Воз ідэйны наш нясецца
Аж на злому галавы.
Ты куды глядзіш, Русецкі?
Што ты робіш, Канцавы?
Як няма на месцы Саўкі,
Дык залезлі ўсе пад лаўкі.
Бескантрольна Екель Лёня
Што з трыбуны балабоне?!
Клічце сёння ж у кантору
Групу хуткага адпору.
Перагледзьце ўвесь састаў,
Каб ён больш разумны стаў,
Каб ударам найхутчэйшым
Прышчаміць хвасты "Тутэйшым"
I разнесці на шматкі
Пачынанні "Талакі".

Скрыгатнулі злосна жорны
Пад бязлітаснай рукой,
Каб раструшчыць непакорных,
Адабраць у іх спакой.
I пасыпаліся "крупы"
I з'явілася "мука"
I прысуды піша група
I гаруе "Талака"...

Далажылі гэта Саўку –
I пайшоў ён на папраўку,
Зноў вярнуўся ў родны строй
Разам з гвардыяй старой.
Зноў дратуюць гонар, памяць,
Зноў лупцуюць, ганяць, плямяць



А няўцямная хімера
Выцірае пот з ілба:
Дзе тут Саўка?
Дзе Валера?
Дзе тут фарс?
Дзе барацьба?
З-за чаго ўсчалася бура?
Хто пагрэў на ёй руку?..

Беларуская культура
Плача ціхенька ў кутку...

Вядзьмак Лысагорскі-Меншы

======================

## "Кожны чацвёрты" і Курапаты

Ад рэдакцыі: Першая публікацыя пра Курапаты /"ЛіМ", 3 VI 1988/ змабілізавала Саўку Паўлава і яго калег /гл. папярэднія тэксты/ да дзеянняў, якія павінны былі аслабіць ураджанне аб злачынствах сталіншчыны. Невыпадкова ад ліпеня 1988 г. зноў даволі часта пачалі з'яўляцца ў газетах артыкулы пра нямецкіх акупантаў і беларускіх "саўдзельніках у злачынствах" – своеасаблівая кампазіцыя праўды і хлусні. Маўляў, глядзіце "экстрэмісты", якія ў вас карані, на якой глебе вы выраслі... Таму рэдакцыя рашыла надрукаваць даклад доктара Ю. Туронка "Кожны чацвёрты" і Курапаты, прадстаўлены аўтарам 14 снежня 1988 г. у Варшаўскім клубе БГКТ. Тэкст друкуецца паводле запісу на магнітафонную плёнку.

У снежні 1943 г. выконваючы абавязкі генеральнага камісара Беларусі СС-групенфюрер Курт фон Готберг абвясціў стварэнне Беларускай Цэнтральнай Рады. Неўзабаве паявілася ў Менску партызанская лістоўка пад загалоўкам "Аб зборышчы здраднікаў і аб тым, што налгаў Готберг". Лістоўку атрымаў і сам Готберг, які загадаў яе перакласці на нямецкую мову і выслаць у Берлін. Сёння яна захоўваецца ў многіх архівах свету ў фондах т. зв. Александрыйскіх мікрафільмаў /шыфр: Т-454, ролік 93/.

Зацікаўленне Готберга лістоўкай выклікала пададзеная ў ёй інфармацыя аб тым, што акупанты "забілі, павесілі і спалілі жывымі" звыш 2 мільёнаў жыхароў Беларусі. Незвычайнасць гэтай інфармацыі абумовіў не сам факт нацысцкага генацыду /аб якім Готберг, як адзін з яго рэжысёраў, ведаў нягорш за партызанаў/, але ўпершыню пададзеная колькасць знішчанага насельніцтва. Паколькі ва ўмовах падполля партызаны не маглі займацца статыстыкай генацыду, гэтая інфармацыя разглядалася немцамі як сродак партызанскай прапаганды і вывучалася для выпрацоўкі адпаведных метадаў прапагандысцкага супроцьдзеяння.

Аднак пададзеная ў лістоўцы лічба выкарыстоўвалася не толькі для патрэб ваеннай прапаганды, але адыграла значную ролю і пасля вайны. Усё ж ад часу выдання лістоўкі да канца акупацыі заставалася прыблізна яшчэ шэсць месяцаў, таму неўзабаве пасля вайны колькасць ахвяр нацысцкага генацыду ў Беларусі была павялічана яшчэ на I0% да 2,2 мільёна. Менавіта такая лічба была прадстаўлена падчас судовай расправы над гітлераўскімі злачынцамі, якая адбывалася ў студзені I946 г. перад Ваенным Трыбуналам у Менску. Такім чынам было афіцыйна сцверджана, што акупанты знішчылі 24% даваеннага насельніцтва БССР /9,2 мільёна ў яе сучасных граніцах/, інакш кажучы, ахвярай нацысцкага генацыду стаў амаль кожны чацвёрты жыхар Беларусі.

З цягам часу пытаннем колькасці загінуўшых зацікавіліся даследчыкі, аднак іх ацэнкі не пацвярджалі верагоднасці даных партызанскіх штабістаў. Апрацоўваючы ў канцы 40-х гадоў матэрыялы для Вялікай Савецкай Энцыклапедыі, яны пісалі аб вялікіх ваенных стратах насельніцтва Беларусі, аднак не акрэслівалі іх колькасці, хаця даныя аб 2,2 мільёнах загінуўшых даўно былі апублікаваныя /гл. Большая Сов. Энц, т.IУ, Масква I950, с. 476 і 49I/. Не пагаджаўся з партызанскімі данымі і прафесар Якуб Ракаў, які ў I953 г.ацаніў колькасць знішчаных нацыстамі жыхароў Беларусі "на сотні тысяч" /Белорусская ССР. Очерки экономической географии, Менск I953,с.89/ Цікава заўважыць, што нават старшыня Савета Міністраў БССР, К. Мазураў, лічыў партызанскую ацэнку значна перабольшанай. Выступаючы ў лютым I955 г. на сесіі Вярхоўнага Савета СССР, ён акрэсліў лік знішчанага акупантамі насельніцтва Беларусі на "каля I,5 мільёна" /"Известия", I0 II I955/. Урэшце справа заблыталася да таго, што аўтары выдадзенай у I958 г. "Гісторыі Беларускай ССР" палічылі за лепшае абысці маўчаннем гэтае пытанне.

Як бачым, на працягу многіх пасляваенных гадоў, спробы пераацэнкі афіцыйных даных і больш рэальнага прадстаўлення колькасці ахвяр былі безвыніковымі. Ігнаравалася нават больш памяркоўная ацэнка Мазурава, які неўзабаве пасля свайго выступлення ў Маскве, стаў першым сакратаром ЦК КПБ. Паняцце "кожнага чацвёртага" стала ўсенародным лозунгам, працягвала функцыянаваць у афіцыйных выступленнях, мастацкай літаратуры і публіцыстыцы, на ім выхоўваліся школьнікі і студэнты, прапагандавалася яно не без поспеху і за граніцай. Гэты прапагандысцкі лозунг з усёй сур'ёзнасцю паўтарае радыё "Свабода", ньюёркскі "Беларус" і іншыя беларускамоўныя часопісы на Захадзе. А некаторыя публіцысты ў мартыралагічным захапленні лёгкай рукой павялічылі памеры генацыду нават да "кожнага трэцяга" /польская "Крытыка", I988 № 27/.

Усё ж гэтыя поспехі афіцыйнай прапаганды не супакоілі даследчыкаў і не ліквідавалі разнабою. Трэба было нешта прыдумаць, каб пытанне нацысцкага генацыду на Беларусі выглядала адназначна і не выклікала сумненняў. Відаць, доўга аб гэтым думалі ў кабінетах беларускай сталіцы і ўрэшце ў I964 г., г. зн. праз дваццаць гадоў пасля вайны, было знойдзена шчаслівае рашэнне. Яго прадстаўленне было даручана Васілю Раманоўскаму, які спрабаваў пагадзіць паклоннікаў дагматыкі з прыхільнікамі навукі.

Спасылаючыся на неакрэсленыя канкрэтна архіўныя матэрыялы, Раманоўскі ўпершыню раздзяліў ахвяры генацыду на дзве катэгорыі: мірных жыхароў Беларусі /I409225 чалавек/ і савецкіх ваеннапалонных /8I009I чалавек/ - гл. яго "Саўдзельнікі ў злачынствах",Менск I964, с. I8I. Верыфікацыя прадстаўленых Раманоўскім даных аб ваеннапалонных немагчымая, але ў разглядаемым выпадку няма такой неабходнасці, паколькі загінуўшыя ваеннапалонныя, як правіла,не былі жыхарамі Беларусі і, хаця згінулі на тэрыторыі Беларусі,іх смерць не ўплывала на яе дэмаграфічныя страты. З другога боку, ваеннапалонныя беларускай нацыянальнасці летам і восенню I94I г адпускаліся дамоў. Вясной I942 г. немцы зноў іх паклікалі ў лагеры, чаму аднак, маючы на ўвазе жахлівы лёс сваіх таварышаў, яны не падпарадкаваліся і ўцяклі ў лясы, сталі партызанамі.Праўда, потым гінулі і яны, але гінулі ўжо са зброяй у руках, а не як мірныя жыхары.



Не парушаючы "неабвержную" лічбу 2,2 мільёна, Раманоўскі задаволіў патрабаванні зацікаўленых органаў, аднак раздзяляючы яе на дзве катэгорыі пацярпеўшых, парушыў іншую важную догму: I,4 мільёна знішчаных цывільных жыхароў Беларусі гэта ўжо не 24% яе даваеннага насельніцтва, а I5%. Такім чынам абгрунтаваў ён фальшывасць паняцця "кожны чацвёрты". Можна думаць, што гэтага патрабавала справа верагоднасці страт цывільнага насельніцтва ў гады нямецкай акупацыі і ліквідацыі разнастайных спекуляцый вакол данага пытання. На гэта паказвае незвычайна дакладны падлік знішчанага насельніцтва да кожнага чалавека ва ўсіх абласцях Беларусі. Такім дасягненнем статыстыкі не можа пахваліцца ніводная еўрапейская дзяржава.

Аднак, у адрозненне ад ваеннапалонных, можам паспрабаваць праверыць верагоднасць прадстаўленых Раманоўскім даных аб колькасці знішчанага нацыстамі цывільнага насельніцтва Беларусі. У першую чаргу адкажам на пытанне, наколькі зменшылася за тры гады акупацыі ўсё яе насельніцтва. Вось жа, паводле даных на канец I944 г. складала яно 6265 тысяч, тады як напярэдадні вайны /чэрвень I94I г./ - 9200 тысяч /БелСЭ, т.XII, с.57/.Такім чынам за гэты час насельніцтва зменшылася на 2935 тысяч. Пры тым трэба ўлічыць і тую акалічнасць, што ў другім паўгоддзі I944 г., ужо пры савецкай уладзе, але яшчэ ва ўмовах ваенных дзеянняў, міграцыя цывільнага насельніцтва ў Беларусь і з Беларусі была нешматлікай і найхутчэй раўнаважылася.

Цяпер паспрабуем разгледзець лёсы 2,9 мільёна жыхароў,якіх не стала на Беларусі ад чэрвеня I94I да ліпеня I944 г., паслядоўна абапіраючыся на савецкую дакументацыю:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Эвакуіраваныя летам I94I г. у савецкі тыл | - | каля | I500 | тыс. | I |
| Мабілізаваныя ў Чырвоную Армію летам I94I г. | - | звыш | 500 | " | 2 |
| Ахвяры нацысцкага генацыду | - | | I409 | " | 3 |
| Вывезеныя ў Нямеччыну | - | | 378 | " | 3 |
| Мабілізаваныя ў Чырвоную Армію ў ліпені I944 | - | звыш | 600 | " | 4 |
| Выведзеныя праз "Віцебскія вароты" у савецкі тыл летам I942 г. | - | | 35 | " | 5 |
| Разам | - | звыш | 4422 | " | |

Прадстаўленыя даныя не ахопліваюць усіх страт насельніцтва Беларусі. Трэба таксама ўлічыць вязняў забітых летам I94I г.савецкімі ахоўнікамі ў турмах і падчас эвакуацыі, ахвяры савецкіх

і польскіх партызанаў, тысячы юнакоў і юначак, якія вясной 1944 г. выехалі на дапаможную ваенную службу ў Нямеччыну і дзесяткі тысяч людзей, якія падчас наступлення Чырвонай Арміі летам 1944 г. эвакуіраваліся на Захад. Варта ўлічыць і ненаўмысныя страты, якія былі нанесены насельніцтву ў ходзе франтавых дзеянняў нямецкіх і савецкіх войск летам 1941 і 1944 гг. і ўрэшце, адмоўны натуральны прырост насельніцтва за час акупацыі. На жаль, даступныя крыніцы не выдзяляюць гэтых катэгорыяў страт.

Няцяжка зразумець, што сума ўсіх паасобных катэгорыяў стат насельніцтва павінна адпавядаць яго агульнаму зьмяншэньню. У той жа час, як паказваюць толькі што прадстаўленыя дадзеныя, колькасць жыхароў Беларусі эвакуіраваных у савецкі тыл, мабілізаваных у Чырвоную Армію, вывезеных у Нямеччыну і ахвяр нацысцкага генацыду складае разам звыш 4,4 мільёна, перавышаючы на 50% агульнае зьмяншэнне насельніцтва /2,9 мільёна/. У выніку атрымліваецца звычайная недарэчнасць, якая і прымусіла даследчыкаў шукаць фальшывыя элементы гэтай "статыстыкі".

Паколькі даныя аб эвакуіраваных у савецкі тыл, вывезеных у Нямеччыну і мабілізаваных у Чырвоную Армію абапіраліся на больш верагодныя дакументальныя крыніцы, то такім сфальшаваным элементам аказалася колькасць ахвяр нацысцкага генацыду. Таму, невыпадкова, у апошні час была савецкімі спецыялістамі прадстаўленая новая ацэнка ахвяр нацысцкага генацыду – "звыш 750 тысяч", аб чым паведаміла газета "Голас Радзімы" /27 XI 1986/. Можна думаць, што гэтая, зменшаная амаль напалавіну ў параўнанні з данымі Рамано́ўскага, ацэнка бліжэйшая да сапраўднасці, хаця ўсё яшчэ крыху перабольшана.

Перагляд колькасці знішчаных нацыстамі цывільных жыхароў Беларусі /з 2,2 мільёна да 750 тысяч/ не мяняе злачыннага характару гітлерызму, паколькі маральна неістотна ці яго ахвярамі была адна тысяча ці сотні тысяч безабаронных, невінаватых людзей. Якая ж тады была прычына перабольшвання савецкімі ўладамі колькасці гэтых ахвяр, прычына фікцыі, якая працягвалася цэлыя дзесяцігоддзі? Сёння, калі сталі вядомымі жахлівасці сталінскага генацыду, адказ на гэтае пытанне даволі просты. Усё ж, паспрабуем яго абгрунтаваць:

Па-першае – згаданая партызанская лістоўка сведчыць, што колькасць знішчанага нацыстамі насельніцтва была акрэслена яшчэ ва ўмовах акупацыі, а гэта азначае, што яна не была рэзультатам падлікаў Надзвычайнай камісіі па расследаванню гітлераўскіх злачынстваў, а ўказанняў, якія партызанскія штабісты атрымалі ад сваіх улад, найхутчэй органаў НКВД.

Па-другое – гэтыя ўказанні адносіліся і да Надзвычайнай камісіі, аб чым сведчыць факт, што ў 1946 г. яна магла толькі"ўдакладніць" раней запланаваную лічбу да 2,2 мільёна, штучна павялічваючы ўжо несумненна вядомую прыблізную фактычную колькасць ахвяр нацысцкага генацыду ў Беларусі прыкладна ў 3 разы.

Па-трэцяе – устаноўленая такім чынам лічба павінна была ахапіць ахвяры не толькі гітлераўскага, але і сталінскага генацыду, што сведчыць аб імкненні савецкіх улад перакласці адказнасць за свае злачынствы на нямецкіх акупантаў.



Сімвалам сталінскага генацыду сталі Курапаты, дзе ў 1937 – 1941 гадах загінула ад кулі энкавэдзістаў звыш 100 тысяч чалавек. Пра гэта свет пачуў толькі ў 1988 г., аднак на Беларусі, дзе такіх Курапатаў было нямала, ведалі аб іх даўно і, па магчымасці, імкнуліся дэмаскіраваць злачынствы. Такая магчымасць узнікла ў час нямецкай акупацыі і менавіта тады з'явіліся першыя ацэнкі колькасці ахвяр сталінізму, якія ў агульных рысах адпавядалі пазнейшаму павелічэнню савецкімі ўладамі памераў нацысцкіх злачынстваў. Так напр., Аўген Калубовіч, выступаючы на другім Усебеларускім кангрэсе ў Менску, колькасць ахвяр сталінізму ацэньваў на 1,8 мільёна /гл. "Другі Усебеларускі Кангрэс, Мюнхен 1954, с. 64/. Усё ж , для заходняга свету гэта была толькі "фашысккая прапаганда" і "антысаветчына", накіраваная супроць ваеннага саюзніка.Сёння ж, гэтая ацэнка пацвярджаецца менскім аўтарамі, пры чым некаторыя лічаць яе нават занадта памяркоўнай. Так напр. Васіль Быкаў гаварыў пра "мільёны безыменных людзей Беларусі... панішчаных у гады сталіншчыны – без віны, без права, без следу ў народнай памяці" /"Літаратура і мастацтва", 28 X 1988/. На нашу думку, ацэнка Быкава перабольшана, а звестка пададзеная Калубовічам бліжэйшая да сапраўднасці.

Аднак, на добры лад, сутнасць справы не ў статыстычнай дакладнасці, і нават не ў тым, што на рахунку сталіншчыны больш знішчаных цывільных жыхароў Беларусі, чым на рахунку нацыстаў. Разглядаючы гэтае пытанне, А. Варава выказаў погляд, што "генацыд супраць уласнага народа і гітлераўскі фашызм – з'явы, бадай, аднаго парадку" /"ЛіМ", 10 VI 1988/. З пункту гледжання растаптанай абодвума таталітарызмамі агульначалавечай маралі, гэта несумненна так. Усё ж, такое сцвярджэнне не вычэрпвае справы. "Што такое фізічнае знішчэнне чалавека ў параўнанні з духоўным? – пытае Валянціна Коўтун – Дзіцячыя гульні... Вось калі ў народзе, панове,знішчаецца дух свабоды, цяга да асветы, калі хітра і настойліва падточваюцца карані айчыны... Вось тады, панове, сапраўды смерць!" /В. Коўтун, Крыж міласэрнасці, Менск 1988, с. 95/.

У гэтых адносінах не было аналогіі ў дзеяннях абодвух таталітарызмаў на Беларусі. Праўда, нацысты знішчылі сотні тысяч людзей, але аднача́сова нямецкая цывільная адміністрацыя зрабіла нямала і для развіцця нацыянальнай свядомасці беларусаў. Беларуская мова зноў заняла належнае ёй месца ў адміністрацыі і іншых сферах грамадскага жыцця. Школы, культурная і выдавецкая дзейнасць мелі выключна беларускі характар, ушаноўвалася нацыянальная сімволіка , а маладое пакаленне ў радах Саюза Беларускай Моладзі выхоўвалася ў духу пашаны і любові да роднага краю, роднай мовы і культуры.

З другога боку, сталіншчына зрабіла ўсё магчымае для духоўнай кастрацыі беларускага народу і яго русіфікацыі. Беларуская мова была загнана на перыферыі грамадскага ўжытку, паслядоўна і настойліва прывівалася да яе пагарда, забівалася гістарычная памяць народу і яго нацыянальная свядомасць. Усё гэта атрымала ўмоўную назву лінгвіцыду /мовазабойства/, які дапаўняў фізічнае знішчэнне /генацыд/ і нёс нашаму народу тую "сапраўдную смерць", пра якую пісала Коўтун. Такім чынам поўнае параўнанне нацызму і сталінізму немагчымае толькі ў катэгорыі генацыду, без уліку нацыянальнай культуры і свядомасці. Сінтэтычным і сімвалічным паказчыкам у гэтай сферы можа паслужыць той факт, што ў "зняволенай" сталіцы Беларусі ўсе школы былі беларускія, а ў "вызваленай" – расейскія.

Выкрыццё масавых магіл у Курапатах выклікала ў Беларусі значны грамадскі рэзананс. 19 чэрвеня 1988 г. адбыўся шматтысячны мітынг у Курапатах, у верасні быў створаны Камітэт "58", а 19 кастрычніка рэспубліканскае гісторыка-асветніцкае таварыства "Мартыралог Беларусі". Асноўныя задачы гэтага грамадскага руху сканцэнтраваны на ўстанаўленні колькасці і пайменна ўсіх загінуўшых у час масавых забойстваў і тэрору на тэрыторыі БССР, Віленшчыны, Смаленшчыны і Беласточчыны, высвятленні іх арганізатараў і выканаўцаў, вызначэнні месцаў забойства і пахавання ахвяр, а таксама стварэнні мемарыяла памяці і помнікаў нявінна забітым людзям.

Але адначасова актывізаваліся і ахоўнікі таямніцы масавых злачынстваў. Ужо ў чэрвені, неўзабаве пасля выкрыцця курапацкіх магіл, з'явіліся спробы дыскрэдытаваць грамадскі рух, імкненні прыцішыць рэакцыю грамадства, паменшыць значэнне злачынстваў сталіншчыны. Нягледзячы на гэтыя намаганні, панурая слава Курапатаў разышлася па Беларусі, Савецкім Саюзе і свеце. На фоне гэтых падзей стварэнне Кмітэта "58" і таварыства "Мартыралог Беларусі" выклікала сярод бюракратычнага апарату рэспублікі істэрычныя спробы супроцьдзеяння ў. Пад яго дыктоўку 22 кастрычніка пачалася ў Беларусі прэсавая кампанія вытрыманая ў "лепшых традыцыях" 30-х гадоў. Дзейнасць Камітэта "58" была аб'яўлена правакацыйнай, самазванай, недэмакратычнай і ўвогуле непатрэбнай. Было выказана меркаванне, што створаная ўладамі рэспублікі Дзяржаўная камісія, сама, без удзелу грамадскага руху, разбярэцца як трэба ў трагічным мінулым.

Такая пазіцыя кансерватыўных сіл на Беларусі мае свае спецыфічныя прычыны. Паслядоўнае выяўленне злачынстваў спрыяла б умацаванню і пашырэнню ўсведамлення таго, што сталінскі генацыд прынцыпова не адрозніваўся ад нацысцкага, а ў колькасным вымярэнні нават значна яго перавышаў. Ці можна тады – думаюць некаторыя – дазволіць на стварэнне велічнага мемарыяльнага комплексу ў Курапатах, аналагічна Хатыні? А калі быць паслядоўным, то трэба ж было б адказаць і на пытанне, якое ставяць мільёны людзей, чаму не судзім энкавэдзістаў, калі судзілі гестапаўцаў? Няўжо адна куля больш справядлівая ад другой?

Усё ж гэта толькі адна прычына, пры тым не найважнейшая. Як вядома, сталіншчына – гэта не толькі генацыд, але і лінгвіцыд. Таму невыпадкова, што тыя сілы грамадства, якія асуджаюць фізічнае знішчэнне народу, адначасова выступаюць і супраць яго духоўнай смерці. Адсюль зразумела, чаму прэсавая кампанія абаронцаў антыперабудоўчай Вандэі супраць Камітэта "58" спалучалася з нападкамі на актывістаў Беларускага Народнага Фронту, дзеячаў нефармальных суполак і арганізатараў "Дзядоў" – спрадвечнага Дня памяці, святкаванне якога 30 кастрычніка ў Менску разганялася сіламі міліцыі.

Аднак, як вядома, паліцэйскія дубінкі і вадамёты – зброя мала надзейная і безперспектыўная. Таму, апрач гэтых сродкаў, была пушчана ў рух новая порцыя старой палітграматы. 22 кастрычніка і ў наступныя дні ўсе рэспубліканскія і абласныя газеты надрукавалі артыкул "Эволюция политического невежества", у якім інспіратары і падпісаныя пад ім асобы імкнуліся пераканаць чытачоў, што беларускае адраджэнне ідэйна звязана з нямецкай акупацыяй. А гэта, паводле іх задумы, павінна кампраметаваць сучасны адраджэнскі рух. Што ж, можна толькі павіншаваць ініцыятараў артыкула з высокім палітычным "вежеством", але і адначасова засумнявацца, ці спасылка на нямецкую нацыянальную палітыку ў Беларусі зможа выклікаць намерную рэакцыю. Занадта добра вядомая сітуацыя роднай мовы і школы ў "зняволенай" і "вызваленай" сталіцы...



А палітычным спекулянтам на ахвярах нацысцкіх злачынстваў варта, у абліччы Курапатаў, удумацца ў біблейскую мудрасць: "Пакуль вымеш трэску з вока бліжняга, вымі бэльку з вока ўласнага".

---

1/ Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, том XII, с. 163
2/ Там жа, с. 160
3/ В. Раманоўскі, Саўдзельнікі ў злачынствах, Мінск 1964, с. 181
4/ Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов, том 3, Минск 1985, с. 479
5/ Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Мінск 1959, с. 310

Юры Туронак

==========================

Замятаюць сьляды

У канцы лютага 1988 г. стала вядома, што ў Заходнеберлінскім цэнтры архіўнай дакументацыі зьнікла 80 тысяч дакументаў перыяду фашысцкай Нямеччыны. Як яны зьніклі, невядома. Папярэдняе расьсьледаваньне нічога не дало.

На другі дзень у Ленінградзе ў бібліятэцы Акадэміі Навук СССР, адной з самых багатых у краіне, згарэў газетны фонд. Спалены ўсе газеты перыяду сталінізму – з 20-х, 30-х, 40-х гадоў і іншыя. Раней такі пажар /спаленьне газетнага фонду/ адбыўся ў Кіеве.

У так званы застойны перыяд у 70-х гадах была выдадзена інструкцыя бібліятэкарам па ўпарадкаваньні фондаў і зьнішчэньні газет. Ва ўсіх бібліятэках – ад ведамасных, раённых да рэспубліканскіх – адбывалася "чыстка" фондаў. Асабліва пацярпелі газетны і часопісны фонды, тое, што зьяўляецца летапісам часу. Малапісьменныя чыноўніцы, якімі звычайна напоўнены савецкія бібліятэкі, пускалі на макулатуру пад нож нават рэдкія выданьні па гісторыі краін, дваранства, літаратуру на замежных мовах /у тым ліку і беларускую, бо яна для іх замежная, асабліва калі на лацінцы/. Страты велізарныя.

Трэба ўлічыць таксама, што ўсялякія спецсховы, дзе ляжыць пад замкамі "арыштаваная" літаратура, у тым ліку і рэлігійная, увогуле не падпарадкоўваюцца бібліятэкам, а непасрэдна КДБ. У іх свае інструкцыі, паводле якіх яны могуць зьнішчыць практычна любое выданьне, пакінуўшы ад яго /да пары/ толькі адзін экземпляр. Аўтадафэ ў бюракратыі мае не толькі таямнічы, але і дзяржаўна арганізаваны характар. Таму не сьпяшайцеся выкідаць газеты! Зьбірайце і захоўвайце іх. Гэтым будзе зроблена паслуга для гісторыі. /в/

Заўважым, што ў той час адносіны дзяржаўных органаў да беларускага пытання супадалі з дзейнасцю польскай апазіцыі і яе узброенага падполля, нягледзячы на тое, што ішла тады паміж імі крывавая барацьба за ўладу. Падполле прымушала беларусаў пакідаць свае родныя мясцовасці, нярэдка стасуючы эсэсаўскія метады. Прыгадаем хаця б лёс вёсак Шпакі, Зані і Залешаны на Бельшчыне, якія ў I946 годзе былі падпольнымі атрадамі спаленыя, а іх насельніцтва, у тым ліку жанчыны і дзеці, забітыя. Значную салідарнасць выказвалі ўлады і апазіцыя таксама ў ліквідацыі беларускіх школ. Зразумела, што ў такіх умовах апазіцыя не выходзіла да беларусаў з ніякой пазітыўнай праграмай. Яе дзеянні выклікалі сярод нашага насельніцтва толькі страх і нянавісць, што выяўлялася ў даволі значнай падтрымцы "народнай" улады, якая прадстаўляла меншае зло.

Разгром падполля ў Польшчы ў канцы 40-х гадоў давёў да амаль поўнай ліквідацыі апазіцыйных груповак. У выніку, цэнтр палітычнай думкі апазіцыі апынуўся на эміграцыі, дзе на працягу дзесяцігоддзяў публікаваліся разнастайныя ацэнкі нацыянальнай палітыкі даваеннай Польшчы і выпрацоўваліся яе канцэпцыі на будучыню. Усё ж сярод створанай там немалой літаратуры цяжка ўгледзець канцэпцыі вырашэння беларускага пытання ў ПНР. Справы нашай нацыянальнай меншасці не заўважаліся, ці можа, проста ігнараваліся.

Большае зацікаўленне гэтым пытаннем пачалі выказваць краёвыя дзеячы апазіцыі ў канцы 70-х гадоў, калі сфарміраваліся яе арганізацыйныя структуры, як Камітэт Абароны Рабочых /КОР/ ці Канфедэрацыя Незалежнай Польшчы /КПН/. Гэтае зацікаўленне было, бадай, заканамерным: па-першае, беларуская нацыянальная меншасць, нягледзячы на асіміляцыйныя працэсы, прадэманстравала сваю жыццяздольнасць і па-другое, у цяжкім змаганні за сваю нацыянальную тоесамасць нямала дзеячаў БГКТ - хацелі яны гэтага ці не - таксама апынуліся ў становішчы своеасаблівай апазіцыі да афіцыйнага рэжыму. Такім чынам польская апазіцыя магла спадзявацца на паразуменне і супрацоўніцтва з беларусамі і іншымі нацыянальнымі меншасцямі ў ПНР.

Зразумела, што найбольшую ўвагу беларусаў выклікала пазіцыя незалежнага прафсаюза "Салідарнасць" - магутнай грамадскай сілы, якая ў I980 г. аб'яднала м. інш. амаль усе апазіцыйныя групоўкі ў Польшчы. 7 X I98I г. першы краёвы з'езд "Салідарнасці" прыняў пастанову "Да братоў беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў у Польшчы", якая дэкларавала грамадзянскія правы "палякам незалежна ад іх нацыянальнасці". Пастанова падкрэслівала, што з'езд "супрацiўляецца ўсякім нацыянальным падзелам" і што "на багацце польскай культуры складваюцца таксама рэгіянальныя асаблівасці". Такім чынам спецыфіка беларусаў трактавалася ў такіх самых катэгорыях як кашубаў, мазуроў, гураляў і іншых. Якраз толькі да вайны прапанавала эндэцыя. Сёння дзеячы "Салідарнасці" мяркуюць, што такая фармуліроўка была памылкай, тэхнічным недаглядам з боку ўдзельнікаў з'езду з увагі на пануючую там нервовую атмасферу. Усё ж заўважым, што на з'ездзе "Салідарнасці" было шмат выдатных юрыстаў, здольных належна адрэдагаваць згаданую пастанову.

Аднак, нягледзячы на такую ці іншую ацэнку гэтай пастановы, маем абгрунтаваную падставу меркаваць, што ў канкрэтных умовах польска-беларускага этнічнага пагранічча не было тады магчымасці супрацоўніцтва з апазіцыяй. Прыгадаем два красамоўныя факты. Першы: у I98I г. галоўны рэдактар беластоцкага бюлетэня "Салідарнасць"



які прапанаваў выдаць некалькі дзесяткаў экземпляраў гэтага часопіса на беларускай мове, быў даслоўна закрычаны сваімі супрацоўнікамі. І другі факт: беластоцкае праўленне Незалежнага Студэнцкага Саюза /НЗС/ прагнала "як сабак" /акрэсленне удзельніка дэлегацыі/ прадстаўнікоў беларускіх студэнтаў, якія працягнулі руку да супрацоўніцтва. Факт, што ў Варшаве НЗС прыхільна адносіўся да пастулатаў беларускіх студэнтаў меў зусім невялікае значэнне: у Варшаве вучыліся дзесяткі, а ў Беластоку - сотні.

У I982-I988 гг., пасля роспуску "Салідарнасці", розныя апазіцыйныя групоўкі ў Польшчы шырока разгарнулі нелегальную, ці можа лепш, нефармальную выдавецкую дзейнасць. Выдаваліся спецыяльныя часопісы, а нават кніжкі, прысвечаныя справам нацыянальных меншасцей, у тым ліку і беларускай. З часам, усё большае зацікаўленне гэтымі пытаннямі выказваў польскі "легальны" друк, м. інш. каталіцкія газеты і часопісы. У пераважнай меры была гэта т. зв. разліковая літаратура, на падставе якой складваецца агульнае ўражанне, як мала палякі ведаюць пра беларусаў, якія жывуць у польскай дзяржаве. Гэтыя іх веды абапіраюцца перш за ўсё на публікацыі "Нівы" і Беларускага Незалежнага Выдавецтва, а таксама на выпадковыя і несістэматызаваныя выказванні прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі і беластоцкіх палякаў, якія ўжо стварылі значную міфалогію аб беларусах Беласточчыны.

Да гэтай "разліковай" літаратуры спадзяемся вярнуцца пры лепшай нагодзе, а пакуль што, абмяжуемся праграмнымі выказваннямі. Сярод іх на асаблівую ўвагу заслугоўвае кніжка Казімежа Падляскага "Беларусы, літоўцы, украінцы", якая выдавалася некалькі разоў у Польшчы /нелегальна/ і ў I985 г. у Лондане /друкам/. Падляскі, які прадстаўляе ліберальныя кругі польскага каталіцызму, зрабіў кароткі агляд польска-беларускіх адносін, у якім абодва бакі надзяліў віной за ўзаемныя канфлікты. Ён жаліўся над дурнотай даваеннай польскай палітыкі ў адносінах да беларусаў, якая пазбавіла Польшчу ўплываў у гэтай частцы Еўропы. "Мы, як народ, былі на заходніх землях Беларусі панамі сітуацыі, як ніколі дагэтуль і як ніколі пазней - пісаў Падляскі. І нічога добрага для іншых мы там не зрабілі /.../ Быў шанц, што пад адной страхой II Рэчыпаспалітай паўстане беларускі П'емонт - цэнтр аўтэнтычнай і незалежнай культуры, вялікая школа нацыянальных дзеячоў у галіне асветы, гаспадаркі, самаўраду і палітыкі, зручная процівага фікцыі БССР, выклік сталінскай нацыянальнай палітыцы. Мы змарнавалі гэты шанц. Сёння за ўсё плоцім".

Аб сучасных пытаннях беларускай нацыянальнай меншасці Падляскі піша: "Маем нацыянальны антаганізм у поўнасці, хаця толькі лакальны. Ён нацягнуты нядрэнна: мае ўжо незалежныя платформы - палітычную, культурную і эканамічную, у якіх нярэдка выступаюць супярэчныя справы і кар'еры канкрэтных людзей, цэркваў, вёсак". Прадстаўленыя аўтарам прычыны канфліктаў няшмат адрозніваюцца ад іх агульнай польскай інтэрпрэтацыі, аднак ён выказвае гатоўнасць да дыскусіі і супрацоўніцтва без папярэдняга акрэслення ідэйных пазіцый.

У апошнія гады ў адносінах польскай апазіцыі да беларусаў і іншых меншасцей выявіліся новыя акцэнты. I6 XII I984 г. чатыры групоўкі: арганізацыя "Свабода-Справядлівасць-Незалежнасць", палітычны рух "Вызваленне", Ліберальна-дэмакратычная партыя "Незалежнасць" і палі

тычная група "Воля" выдалі адозву "Да братоў украінцаў, беларусаў і літоўцаў", у якой прапанавалі прадстаўнікам незалежных грамадскіх і палітычных цэнтраў гэтых народаў падпісаць супольную дэкларацыю аб непарушнасці існуючых дзяржаўных граніц. Аўтары адозвы заявілі, што хаця гэтыя граніцы не задавальняюць палякаў,то аднак у імя супрацоўніцтва, яны не хацелі б імкнуцца да "справядлівасці" шляхам новых крыўдаў. Затое нацыянальныя меншасці абапал граніцы, г. зн. беларусы ў ПНР і палякі ў БССР, павінны карыстацца ўсімі свабодамі, якія ім дазволілі б захаваць нацыянальную тоесамасць і развіваць родную культуру /"Бюлетын Дольнослёнскі", студзень I986 г./. Нам невядома, якое значэнне ў структуры польскай апазіцыі маюць згаданыя чатыры групоўкі; ва ўсякім выпадку, пасля падпісання адозвы, здаецца, ніякой ініцыятывы ў гэтай справе яны больш не выказвалі.

Цалкам іншую палітычную канцэпцыю сфармулявалі дзеячы неакрэсленай групоўкі, якія гуртуюцца вакол часопіса "Самостановене". Яны дэкларуюць прызнанне польскага эміграцкага ўрада ў Лондане за адзінае легальнае нацыянальнае прадстаўніцтва. Паслядоўна, адзін з аўтараў гэтай групы, Калікст Марцінкоўскі, зрабіў вывад і аб легалізме польскай рацыі на ўсходзе, у тым ліку і рыжскай граніцы. Ён заклікаў польскі эміграцкі ўрад прызнаць прадстаўнікамі беларускага і ўкраінскага народаў усе незалежныя арганізацыі, якія дзейнічаюць на ўсход ад рыжскай граніцы. У выпадку арганізацый, якія дзейнічаюць у "межах II Рэчыпаспалітай" /г. зн. у заходніх раёнах БССР і УССР – рэд./ гэты аўтар прапанаваў прызнаць іх як прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей "Крэсаў". У будучыні, паводле аўтара, магчымыя два рашэнні: федэрацыя "Крэсаў" з Польшчай, або іх далучэнне да незалежных дзяржаў Беларусі і Украіны./"Самостановене", I985 № 2/. Аднак, хто будзе рашаць аб іх такім ці іншым лёсе, аўтар не піша.

Чарговая канцэпцыя гэта пагадненне польскай апазіцыі з Расіяй. Стэфан Кісялеўскі прадбачыў нават магчымасць такога пагаднення з рускімі бальшавікамі. Паводле яго, існуючы ў Еўропе палітычны парадак не зменіцца ў бліжэйшай будучыні, таму некамуністычныя цэнтры ў Польшчы павінны шукаць пагаднення з кіраўнікамі СССР. Узамен за свабоду ўнутранага развіцця Польшчы, апазіцыя павінна прапанаваць гарантыю захавання структуры Варшаўскага дагавору /"Культура", I984, № I-2/. Такая ідэя прадстаўлялася таксама ў брашуры "Паміж Польшчай нашых жаданняў і Польшчай нашых магчымасцей" /Рым I983/, у якой ўсё ж прапанавалася пагадненне не з савецкімі правадырамі, а з некамуністычнай Расіяй. З свайго боку заўважым, што для беларускай справы не мае істотнага значэння ці палякі змогуць паразумецца з савецкімі ці несавецкімі рускімі.Аўтар брашуры "Паміж Польшчай..." адкрыта гаворыць: "Мы павінны адкінуць план расчлянення Расіі на нацыянальныя дзяржавы". Згодна з гэтым, беларуская справа – гэта ўнутраная справа Расіі, а лёс славянскіх меншасцей у ПНР – гэта ўнутраная справа Польшчы.

Кожны варыянт польскай палітыкі ў адносінах да беларусаў абумоўлены сучасным геапалітычным становішчам Польшчы. Правільна заўважыў Аляксандр Люціч, што Беларусь з Польшчай злучае сёння няшмат, так мала як ніколі дагэтуль. Польшча, што магло б здавацца, не дзеліць супольнага лёсу з Беларуссю, Літвой ці Украінай, але з Чэхаславакіяй, Балгарыяй, Венгрыяй /"Альтэрнатывы",I988 № 3/



Урэшце, цалкам новы падыход да беларускага пытання выказалі апазіцыйныя дзеячы згуртаваныя вакол выдавецтва "Пжэдсвіт", якое ў I986 г. выпусціла асобную кніжку прысвечаную гэтаму пытанню – "Аргументы да польска-беларускага дыялога". У прадмове да гэтага зборніка, апрацаванага – што варта падкрэсліць – у супрацоўніцтве з беларускімі аўтарамі, рэдактары заяўляюць: "Можам, бадай, не задумоўвацца над польскім інтарэсам у беларускай справе.Ён відавочны нават тады, калі б гэтая справа ніколі не выявілася інакш, як рэгіянальная спецыфіка найбліжэйшага на ўсход ад Варшавы абшару СССР; польскі інтарэс адразу станецца сур'ёзным бізнесам, калі б на Беларусі расцвіў аўтэнтычны нацыянальны рух,які трываў бы сярод поспехаў, ці нават сярод паражэнняў. Аб ідэальным, з нашага пункту гледжання, выпадку, г. зн. аб незалежнай Беларусі, увогуле гаварыць не даводзіцца, таму, што такая магчымсць занадта прыгожая, каб хутка стала рэальнай. Звернем толькі ўвагу на асноўнае супадзенне інтарэсаў: для нас карысны які-небудзь стан беларускай справы, акрамя яе ўпадку; чым лепш з гэтай справай, тым лепш для нас" /"Аргументы..., с. 8/.

На фоне ранейшых выказванняў апазіцыі, голас рэдактараў "Аргументаў..."не толькі найбольш прыхільны беларускай справе, але – што важнейшае – найбольш пераканаўчы, паколькі ён грунтуецца не на такіх ці іншых эмоцыях, а на разуменні інтарэсу, які, як правіла, мае рашаючае значэнне ў міжнацыянальных суадносінах. Спадзяемся, што гэтае істотнае пытанне заслугоўвае паглыбленага аналізу як з польскага, так і з беларускага боку і буде неаднаразова разглядацца на старонках КАНТАКТУ. Сёння ж, згодна з тэмай нашых разважанняў, абмяжуемся да параўнальна невялікага ўчастка гэтага пытання, г. зн. да адносін да беларускай нацыянальнай меншасці ў ПНР.

На жаль, у гэтай канкрэтнай справе рэдактары "Аргументаў..." паўстрымаліся з выяўленнем адназначнага погляду, замест якога прадставілі на разгляд чытачоў наступную дылему: "ці пасіўна талераваць існаванне сярод нас беларускай меншасці, з такім разлікам, што яна паступова знікне, а разам з ёю і лакальная пагроза, якую стварае гэтая меншасць, ці ўсё ж дзейнічаць у напрамку змяншэння гэтай пагрозы, падтрымоўваючы ў меру магчымасці беларускі нацыянальны патэнцыял у Польшчы, аднак рызыкуючы, што гэты патэнцыял павернецца супраць нас?" /"Аргументы...", с. I0/.

Першы сшытак "Аргументаў...", у якім была прадстаўлена гэтая істотная дылема, з'явіўся летам I986 г., аднак на працягу больш як двух гадоў ніхто не выказваўся ў гэтай справе. Маўчалі дзеячы польскай апазіцыі, прадстаўнікі беларускай меншасці і дзяржаўных улад. Толькі час ад часу, галоўным чынам на старонках варшаўскай "Палітыкі" з'ўляліся артыкулы прафесара Ю.Тамашэўскага, які паслядоўна выказваўся за пазітыўнай палітыкай у адносінах да нацыянальных меншасцей, а ў іх ліку і да беларускай. Але, як вядома, прафесар Тамашэўскі не апазіцыя, не ўлада і не меншасць, да таго гэтым пытаннем ён заняўся шмат раней чым выдаўцы "Аргументаў...".

Толькі восенню I988 г. пачаліся выказванні і то з усіх бакоў. На пачатку кастрычніка група беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх інтэлектуалістаў апрацавала пакет пастулатаў для абмерка-

вання падчас спадзяванай сустрэчы прадстаўнікоў улад і апазіцыі пры "круглым стале", якія 30 X 1988 г. надрукаваў "Тыгоднік Повшэхны". Амаль адначасова – 23 кастрычніка – выступаючы на XI-тым з'ездзе БГКТ у Беластоку, прадстаўнік ЦК ПАРП Аляксандр Баляхоўскі заявіў, што саюзнікам беларускай нацыянальнай меншасці і гарантам выражэння яе патрэб і аспірацый з'яўляюцца якраз ПАРП і дзяржаўныя органы ПНР /"Ніва", 27 XI 1988/. Як на іронію, гэтыя гарантыі пацвярджаліся далейшым, і то даволі значным, змяншэннем у 1988/89 г. абсягу навучання беларускай мовы ў пачатковых школах Беласточчыны... Невыпадкова ўдзельнік з'езду Фёдар Галёнка назваў уяўную свабоду беларусаў у развіцці сваіх нацыянальных памкненняў звычайным міфам і, патрабуючы юрыдычных забеспячэнняў у гэтай справе, прадставіў пастулат аўтанамізацыі беларускай меншасці ў Польшчы /"Ніва", II XII 1988/.

Пакуль "Ніва" надрукавала з'ездавыя матэрыялы, адбыліся чарговыя падзеі. 8 лістапада кіруючы орган "Салідарнасці" адобрыў пастулаты трох нацыянальных меншасцей, прызнаў іх як частку сваёй праграмы дэмакратызацыі і вырашыў іх прадстаўляць падчас спадзяваных перагавораў з уладамі. Аб гэтым паведамілі польскі незалежны друк і заходнія радыёстанцыі. Урэшце, II лістапада менская "Літаратура і мастацтва" апублікавала артыкул Барыса Сачанкі "На зямлі беластоцкай", у якім было выказана меркаванне, што ўсе праблемы беларускай меншасці можна вырашыць шляхам карэктуры польска-савецкай граніцы, іначай кажучы, шляхам далучэння этнічна беларускай усходняй Беласточчыны да БССР, згодна з прынцыпам: адзін народ – адна дзяржава.

Такім чынам беларускае пытанне ў Польшчы, якое яшчэ нядаўна было амаль не заўважальным, атрымала своеасаблівую "галоснасць". Вядома, найбольшае ўражанне выклікала беспрэцэдэнтная публікацыя Сачанкі, пасля якой генеральнае консульства ПНР у Менску выказала ўладам БССР пратэст – маўляў, непадзельным павінен быць польскі народ, а беларускі... можна рэзаць на частачкі, як у сумнай славы Рызе. Праўда, пад націскам дыпламатаў і Віктара Рудчыка з беластоцкай "Нівы" рэдакцыя "Літаратуры і мастацтва" тактоўна заявіла, што выказванне Сачанкі аб магчымасці пераносу граніцы гэта яго "прыватнае меркаванне" /"ЛіМ", I6 XII 1988/, аднак, як кажуць, "напісанае застаецца" і пашырае дыяпазон магчымасцей вырашэння беларускага пытання ў ПНР.

Нам невядома, ці погляд Сачанкі аб пераносе дзяржаўнай граніцы быў толькі яго "прыватным меркаваннем", ці быў інспіраваны зацікаўленымі органамі БССР з мэтай супрацьдзеяння развіццю канструктыўных польска-беларускіх суадносін. Затое можам не сумнявацца, што пад уплывам гэтага знешняга фактару ўзрасце недавер палякаў да беларускай нацыянальнай меншасці ў ПНР, а візія "нацыянальнай пагрозы" – няважна, рэальнай ці ўяўной – будзе садзейнічаць збліжэнню інтарэсаў апазіцыі і ўлад.

Віктар Марэз



Замест агляду друку

Істотным чынам прысвечаная беларускай тэматыцы польская публіцыстыка ў шматтыражным друку зводзіцца на практыцы да абмяркоўвання кніжкі Сакрата Яновіча "Беларусь, Беларусь". Частыя інтэрв'ю або, звычайна, выступленні самога аўтара, які, пры тым, шмат ездзіць па Польшчы, па запрашэнні перш за ўсё універсітэцкіх цэнтраў. Пішуць пра яе і яго літаральна ўсе – ад самага аўтарытэтнага тыднёвіка ў Польшчы, "Палітыка", варшаўская і парыжская "Культура", па зусім правінцыяльныя, напр. "Вармія і Мазуры". Рэагаванне вельмі амплітуднае, крайняе: нападкі каталіцкай "Вензі" і дыфірамбы /амаль/ "Кур'ера Падляскага", які, дарэчы, скватна перадрукоўвае потым усякія "шпількі" у бок беларусаў.

Такі стан збольшага за апошнія год-два, калі не лічыць навуковых і паўнавуковых органаў, якія нас – у дадзеным выпадку – менен цікавяць як з'явы з мінімальнымі ўплывамі на грамадскую думку. Час ад часу бярэ свой голас наконт Беларусі і неафіцыйны друк, што існуе ва ўмовах падполля або паўпадполля /напрыклад, "Крытыка" ужо падае адрас сваёй рэдакцыі і ейны састаў/. Аднак абсяг гэтых выданняў цяжка параўноўваць нават са спецыялістычнымі або акадэмічнымі. Як жартуюць – чытачы "Крытыкі" змясціліся б у адным аўтобусе... Легальнае заўсёды папулярнейшае за нелегальнае.

З'яўляюцца публіцыстыкі без сувязі з шумам вакол Яновічавага адкрыцця палякам Беларусі. Праўда, рэдка і павярхоўныя, неглыбокія. Трохі аказійныя, трохі нататкавыя. І хоць смешным было б пералічваць тую журналісцкую драбноту, аднак варта – менавіта – зыходзіць з яе як перспектыўнай праявы нарастання стабільнай цікавасці да беларускага народа, яго культуры і гісторыі, палітыкі і актуальнага лёсу. Кідаецца ў вочы поўнае неразуменне нас і нашай сітуацыі.

Польскія аўтары цапускаюць у гэтым сваім пісьменстве – пераважна – памылку аналогіі. Будучы традыцыйна лепей азнаёмленымі з Літоўскай ССР, ім не прыходзіць у галаву тое, што Беларуская ССР фігуруе хутчэй за ўсё па палітычнай інэрцыі, пераўтварыўшыся ў сапраўднасці ў правінцыю Расіі. Карыстаючыся вядомай іроніяй Расула Гамзатава, гэта нарыхтоўчая кантора Масквы. Фактычна каланіяльнае ўтварэнне. Жывучаму ў сяк-так нармальнай дзяржаве варшавяніну і не сніцца, што можа быць нацыянальная рэспубліка, у якой прападае карэнная нацыянальнасць, вырадзіўшыся ў сваёй большасці ў рэгіянальнае і геаграфічнае паняцце, тыпу: мы – сібіракі, мы – кубанцы і г.д. Беларускі культурны працэс рэдукавалі да нейкага акварыума дзеля паказу заалогам, ці бо фальклорнага відовішча, на якім буяніць люд і на якое прыходзяць турысты. Настаўнікі – беларусісты ў школах толькі інцыдэнтальна даюць рады натуральным чынам размаўляць на роднай яшчэ ім мове і мець волю прапагандаваць яе. Самая адміністрацыя спрыяе гэтаму, вызначыўшы большую плату якраз выкладчыкам рускай "словесности". Хто ж пры здаровым розуме можа ўявіць такое, скажам, у Польшчы? Варшаву, у якой не чулася б польскай мовы на тратуарах і ва ўстановах?! І дыскрымінацыю паланістаў!

Цяпер афіцыйна вядома, што беларускай асветы няма, спляжылі, па-праўдзе кажучы. Кадры прадметнікаў выхоўваюць па-руску і ў

расійскім духу. Уключна з факультэтамі беларускай філалогіі, на
якіх, здаралася, самую граматыку вывучалі на "общепонятном".Мова
беларусаў не ёсць абавязковай, дзяржаўнай у БССР. Не патрабуюць
ведаць яе і на ўступных экзаменах. Непатрэбная і на рабоце. Абса-
лютна нідзе, акрамя тысячнай жменькі недарэзанай інтэлігенцыі,на
якую сабак вешаюць, не могучы ў наш час саслаць у Варкуту або на
Калыму. Гэта відаць і па тыражах газетаў ды іх моўнай структуры.
Ёсць раёны, у якіх даслоўна тры-пяць чалавекаў выпісваюць  бела-
рускамоўныя, і хоць савецкія, ўсё роўна публічная думка ахрышчвае
іх "антысаветчыкамі". Вось да чаго дакаціліся: у сучасны момант
улады нават – пакуль эпізадычна – падтрымліваюць адраджэнне і па-
шырэнне беларускага, але сам народ, масы ўжо супраціўляцца гэтаму.
Азвацца па-беларуску на вуліцы раўназначнае з прыкрай сенсацыяй
і грамадскім самагубствам.

Калі гэта[1] даходзіць да палякаў, дык яны, звычайна не вераць.
Як гэта так: беларусы ненавідзяць беларускае, высякаюць пад  ко-
рань!? Магчыма такі народ, які б не хацеў жыць? Нягледзячы на шок,
у якім польскі чытач знаёміцца з перакладзеным ды змешчаным   на
шмат-якіх старонках матэрыялам "Курапаты – дарога смерці", не ке-
міць, што ад духа Беларусі ў СССР засталіся адны асколкі,рэшткі,
у лічбавых велічынях на некалькі арыштанцкіх машынаў – "варонак".
Трэба цуду, каб адбудавацца з гэткіх руінаў! Трэба самастойнасці,
суверэннасці.

Яны, палякі, усё адрасуюць свае публікацыі беларусам, думаю-
чы, што гэта народ мы. А мы ўжо не народ, мы – усюды нацыянальная
меншасць, ад Смаленска па Беласток. Не адрозніваючы рускага маўлен-
ня ад беларускага, ім здаецца па наіўнасці, што Мінск гудзіць бе-
ларушчынаю, і што Гродна беларусізавалі. І што, наогул, мы проста
стаім, нарэшце пазбыўшыся прыгорбленасці, псіхалогіі раба, парабка.
І вольна працуем, бо толькі тады праца ёсць працаю, а развіццё  –
не фікцыяй.

Нас затапталі настолькі, што мы цяпер не ў сілах пакарыстац-
ца на ўвесь рэгулятар "перестройкой", прыкладам як літоўцы або
эстонцы. Паводзім сябе, бы пажыццёвы вязень, якому раптам адчыні-
лі турму і сказалі: выходзь! А ён не цяміць, чаго гэта ад   яго
ізноў хочуць...

Вось чаго не растлумачыць нам палякам: беларусы сталі чужын-
цамі ў Беларусі сваёй. Чалавек беларускай культуры – гэта экзотыка,
пальцамі паказваюць на яго родныя землякі. Каму ж хапае  маральнай
мацаты ўтрываць у становішчы, так сказаць, індзейца або негра сярод
белых расістаў!? Усяго некаторым, найболей інтэлектуальным і з ха-
рактарам. А колькі такіх? Адсюль і элітарнасць беларускага руху,
адсутнасць народнай базы ў яго, хоць і ўзнік ён у гістарычную даў-
ніну як прагва эмансіпацыі бедных ды паніжаных. Паміма і таго, што
Савецкая Беларусь у сваіх пачатках была без ліпы беларускай. На ві-
давоку дваццатага стагоддзя задушылі нацыю, і мала хто пра гэта ве-
дае ў свеце. Як і мы самі чуць не чулі пра іншыя трагедыі, што  ад-
быліся зусім нядаўна /хаця б пра генацыд у Кампучыі/.

Ці прабʼюцца беларусы да свайго праз устаялую імглу імперскай
інтэграцыі? Самі – не! Але, няхай парадзее яна ў суседстве,  вятры
пачнуць вывейваць яе і з Беларусі. Беларуская нацыя нікoлі не была
моцнай сама сабою. Падалі іншыя, падала і яна. Цяпер жа ўстаюць ––
– устане і яна. Як заўсёды апошняй. Аднак жа як доўга можна ляжаць,
калі ўсе наўкола ходзяць і ніхто не сядзіць табе на спіне ды не
тыцкае цябе тварам у гразь, бьщцам у жульніцкай бойцы! Насмерць
успалоханыя часам доўга, надта доўга баяцца, і гэтак жа   доўга
вяртаюцца да ўласнае чалавечнасці. Як вузенькая крыніца шырокае
ракі. /аа/

========================

Змест



---

Апрацоўка выдання закончана ў снежні I988 г.

Неаднароднасць правапісу з'яўляецца вынікам пажаданняў паасоб-
ных аўтараў або выдаўцоў. Гэтую істотную справу рэдакцыя лічыць
адкрытай – пажаданыя выказванні і прапановы.

Перадрук дазваляецца толькі са спасылкай на крыніцу.